№ 78 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на ½ году—2 м. 40 ф., на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакціі: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрацііі і экспэдыцыі:
М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 78 (170). Год II. Вільня, 28 верасьня 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

# Беларусы, прыходзьце на сход у нядзелю!

## 27 верасьня.

### Заходні тэатр:

*Фронт Рупрэхта Баварскаго*: Бітва у Фляндры трывала ўчора ад раніцы да познай ночы. Войскі ўсіх нямецкіх правінцій прылажылі сваю руку да ўдач гэтаго дня, прынесшаго ворагам яшчэ менш карысьці, чым 20 верасьня. Штурмы пачаліся барабанным агнём нячутай сілы. Наабапол Лянгмарк ворагі штурмавалі многа разоў, але заўсёды былі адкінуты штыкамі. Ад С. Жульен да дарогі Мэнін-Іпр англічанам удалося ўварвацца ў наш зашчытны пояс на 1 кіл. у глыб. Там ішлі вельмі вострые бітвы с пераменным шчасьцем. Ворагі у многіх пунктах адкінуты. Асабліва вострая бітва ішла на дарогах на заход ад Зонэбэке і за вёску Гелювэльт, карорая асталася ў нашых руках. Далей на поўдні да каналу Комін-Іпр новые штурмы англічан разбіліся з вялікімі стратамі. Штурмавало ня менш 12 дывізій. Наша зашчыта не скранулася з мейсца.

У часі абстрэлу Остэндэ, апрыч шкод у будоўлях, забіты 14 бэльгійцоў і ранены цяжка 25.

*Фронт нямецкаго Насьледніка:* Пры Суассон, Шмэн дэ Дам і на ўсходнім беразі Маасу — ажыўленая чыннасць артылерыі.

---

Збіты 17 варожых самалётаў.

### Усходні тэатр:

Пад Дзьвінскам, ля возера Нароч, у Карпатах, Румынскай даліне і на ніжнім Дунаю агонь крапчэў.

---

ЛЮГАНО (Стэфані). Лятун Лаўрэаті з механікам 24 верасьня а 9 г. 35 м. раніцай выляцеў с Турына на нова-збудаваным самалёці і ў той жэ дзень а 4 г. 30 м. прыляцеў у Лондон. Яго палёт на 1.200 вёрст без перарыву—найдаўжэйшы у Эуропе.

БЭРЛІН. 4 кастрычніка ждуць прамову імперскаго канцлера ў Рейхстагу.

ШТОКГОЛЬМ. «Утро Россіі» друкуе гутарку з расейскім марскім міністрам, каторы заяўляе, што саюзьнікі могуць найбольш памагчы Расеі, занімаючы Эрсунд (між Балтыцкім і Паўночным морэм). Аднак, дайсьці гэтаго можна толькі зусім зьнішчыўшы нямецкі флот. Калі яго зьнішчаць, дык скандынаўскіе дзержавы будуць прымушэны адкрыць праліў.

ПЕЦЯРБУРГ. (П. Т. А.). Міністэр заграні‍чных спраў Тэрэшчэнко сказаў Керэнскаму, што ён лічыць ненормальнымі варункі працы ўраду і з гэтай прычыны ня можэ аставацца ў габінэці, калі не утворыцца свабодная і моцная нацыональная ўласць.

ЎРОЦЛАЎ. Казацкі гэтман Каледін назначаецца за атамана Украіны. Гэтак ён будзе глаўным гаспадаром на Украіне між Днестром і Донам. Каледін—глаўны вораг Керэнскаго і мае ў сваіх руках здольную да вайны армію.

ПЕЦЯРБУРГ (П.Т.А.). Прысяжные на судзе Сухомлінова радзіліся 7 гадзін і на 13 пытаньнёў заявілі, што Сухомлінов вінават. Апраўдалі яго толькі ў абвіненьні ў бязчыннасьці дзеля карысьці ворагоў. Сухомлінов выслухаў прыгавор спакойна. Яго жонка апраўдана.

БЭРЛІН. Новая організацыя раскладкі гасударственых падаткоў у Польшчы ўводзіцца загадам варшаўскаго генэрал-губэрнатара. Падаткі раскладаюцца на нерухомае меньне, ўсе гаспадаркі і прэдпрыемствы, абаротные капіталы і даходы.

---

ВІЛЬНЯ. Вестка аб тым, што карэспандэнціі да «Гомана» можна пасылаць па беларуску, папала ў нашу газэту праз абмылку.

*Рэдакцыя.*

## Мы і Краёвая Рада.

*Вільня, 28 верасьня.*

З заметак і артыкулоў нямецкіх газэт відаць, што справа будучыны окупованай немцамі часьці беларуска-літоўскіх зямель будзе важыцца ў найбліжэйшым часі. І мы, беларусы, ў гэткі важны момэнт не павінны маўчаць, а павінны падаць свой голас, бо справа гэта — то справа жыцьця або сьмерці нашаго народу.

Даволі таго, што ваенным фронтам беларусы аказаліся раздзеленымі на дзьве часьці, і, калі-б гэты раздзел астаўся і пасьля вайны, палажэньне нашаго народу было-бы з нацыональнаго нагляду вельмі цяжкім. Але яно становіцца запраўды трагічным, калі глянем на гэту справу, стануўшы на грунці жыцьцёвых патрэб Беларусі.

Кожын край і кожын народ можэ быць вольным і можэ ўсестаронна развівацца толькі тады, калі будзе мець забаспечэны матэр'яльны быт. А аснаўны закон сучаснаго экономічнаго жыцьця ясна кажэ, што экономічна-гаспадарчае развіцьце магчымо толькі тады, калі край мае вольны выхад да мора, мае свае порты. Толькі гэта дае народу магчымасць плады працы свайй прадаваць на сусьветных рынках без перакупшчыкоў, не аплачываючы іх пасрэдніцтва. Толькі тады праца рабочаго народу старонкі, ўложэная ў фабрыкаты, можэ аплачывацца ў поўнай меры. Толькі тады можэ развівацца фабрычная прамышленасць, даючы заработак мільёнам рабочых рук. Край бяз вольнаго выхаду ў морэ ў сваім матэр'яльным і духовым развіцьці будзе заўсёды цягнуцца ззаду за ўсемі, а яркім прыкладам гэткаго «астраванна сухапуцьці» служыць бедная, некультурная, слабая Сэрбія, каторай заўсёды кіравалі чужынцы і каторая счэзла с карты Эуропы, як ахвяра самалюбнай палітыкі коаліцыі.

У межах нямецкай окупацыі пасьля упадку Рыгі апынуліся ўсе тые порты Балтыцкаго мора, якіе давалі доступ да мора Беларусі. Праз Лібаву, Віндаву і Рыгу йшло заграніцу ўсё, што наш Край меў дзеля прадажы на вываз і чаго не сплаўляў па Нёмані. Рыга — гэта перш за ўсё натуральны порт усяго басэйну Дзьвіны, значыць, усей зямлі Вітэбскай і часьці Віленскай, а сыстэма чыгунак звязывае з ей Магілёўшчыну і далёкую Смаленшчыну. Лібава—гэта порт ня толькі для Віленшчыны і Гродзеншчыны, але і для вялізарнаго абшару зямлі Мінскай. Гэтак ваенны фронт зусім адрэзаў ад мора перэважную часць Беларусі, і калі-б мір умацаваў гэты раздзел нашай Бацькаўшчыны, дык сем мільёнаў беларусоў с таго боку фронту, а такжэ даволі чысьлены элемэнт жыдоўскі і польскі ў Беларусі аказаліся-бы засуджэнымі на вечную экономічную няволю, —на долю Сэрбіі.

Жаданьне ўсіх сьвядомых беларусоў—тое, каб наша Бацькаўшчына не была пабіта на кускі, а каб усе Беларускіе землі разам з этнографічнай Літвой і ў найцясьнейшай лучнасьці с Курляндзіей станавілі бы суцэльную вольную дзержаўную організацію у звязі с тымі дзержавамі, с каторымі наш край злучаюць жыцьцёвые інтэрэсы.

---

## Голас беларусоў.

Мы ўжо пісалі ў «Гомане» аб тым, што Глаўная Камісія Рэйхстагу зажадала ад імперскаго канцлера правядзеньня ў занятых немцамі землях — часьці Беларусі, Літве і Курляндзіі — новай адміністрацыйнай організацыі на аснове самаупраўленьня. Беларускае організованае грамадзянство горача адгукнулося на гэтае выступленьне прэдстаўнікоў нямецкаго народу і паслало у Глаўную Камісію Рэйхстагу гэткую тэлеграму:

У Глаўную Камісію Рэйхстагу
у Бэрліне.

Беларускае організованае грамадзянство шчыра вітае аднадушную пастанову Глаўнай Камісіі Рэйхстагу аб правядзеньні ў жыць-

цё ўжо цяпер — у часі вайны — самаупраўленьня беларуска-літоўска-латышскіх зямель окупацыі на аснове давер'я да прэдстаўнікоў усіх нацыональнасьцей краю. У гэтай пастанове мы бачым заверэньне, што нацыональные правы беларускаго народу ў межах окупацыі будуць забаспечэны ў поўнай меры, а разам с тым запаведзь, што мір прынясе нам спаўненьне палітычнаго ідэалу ўсяго раздзеленаго ваенным фронтам дзевяцімільённаго беларускаго народу на аснове еднасьці з этнографічнай Літвой і с Курляндзіей, каторая праз вусны рады работнікоў і салдатоў у Рызе высказала ўжо сваю поўную солідарнасць з гэтым.

1 верасьня 1917 г.

Тэлеграма падпісана прэдстаўнікамі ўсіх беларускіх грамадзкіх організацый сталічнаго места нашаго краю.

## „Краёвая Рада Літвы“.

Назначэньне Краёвай Рады Літвы ў той момэнт, калі грамадзянство окупованых зямель ждало правядзеньня ў жыцьцё парлямэнцкаго праекту аб самаупраўленьні нашаго краю, вызвало агульнае здзіўленьне. І мы пакуль-што адзначываем толькі гэту адну праиву адношэньня грамадзянства да паменёнаго акту, бо беларусы, не прынімаўшые ніякаго учасьця ў падгатоўцы акту, ня мелі магчымасьці высказаць сваіх паглядоў на яго. Мы думаем, што пагляд беларускаго грамадзянства на „Краёвую Раду Літвы“ выявіцца ў найбліжэйшым часі, хаця і post factum. Са свайго-ж боку лічым патрэбным сказаць вось што.

Да організацыі Рады літоўскай групай у Вільні былі прызваны адны толькі літвіны, — ў дадатку, не на моцы выбару насяленьня. З гэтаго можна было бы зрабіць вывад, што пад „Літвой“ окупацыйные ўласьці разумеюць толькі этнографічную Літву, — значыць, тые землі, дзе жывуць літвіны, дзе народ гаворыць па літоўску. Аднак, той факт, што літоўская конфэрэнцыя, выбраўшая кандыдатоў у Раду, заседала ў супольнай сталіцы Беларусі і Літвы, Вільні, навакол каторай жыве беларускае насяленьне, а так сама запаведзь кн. Ізэнбурга, што да Рады маюць быць прызваны, між іншым, такжэ і беларусы, — ясна пяказваюць, што новая установа мае абнімаць справы не літоўскаго народу, а ўсяго таго абшару, каторы ўходзіць у склад Militär Verwaltung Litaüen. Вядома-ж, што да гэтаго складу ўходзіць н, толькі этнографічна літоўскі абшар, але і добры кусок Беларусі; гэтак беларускіе землі окупацыі аказваюцца штучна раздзеленымі, і пад той час, як меншая часць іх аддаецца пад упраўленьне літвіноў, большая астаецца ў межах Verwaltung Беласток-Гродня падупраўленьнем нямецкіх урадніков.

Такі раздзел Беларусі, і без таго разарванай на дзьве часьці ваенным фронтам, вызывае ў нас сур'ёзную трывогу: у межах „маленькай Літвы“ беларусам, перажыўшым часы „пэрэварачываньня“ ў маскалёў і палякоў, грозіць „пэрэварачываньне“ ў літвіноў, аб чым кіраўнікі літоўскай палітыкі, заседаючые цяпер у Радзе, апавесьцілі ўжо у сваім мэмор'яле да нямецкаго канцлера і ў выпушчэнай нідайна кніжцэ з „этнографічнай“ картай Літвы (P. Klimas. Lietuva, jos gyventojai ir sienos“. Vilnius. „1917). Беларусы ня могуць спадзевацца пашаны сваіх правоў ад людзей, аб'явіўшых, што „хто каталік, той — літвін“, — а гэткім людзям даецца цяпер право ладжэньня і нашаго жыцьця.

Інтэрэсы беларускаго народу ў межах нямецкай окупацыі вымагаюць, каб устанаўленьнем Краёвай Рады Літвы беларусоў не дзялілі, а ўсіх іх злучылі;бы разам; каб у гэткай дачэснай Радзе — не нацыональна-літоўскай, а папраўдзі агульна-краёвай — занялі бы належнае мейсцо ўсе нацыональнасьці краю, а ў тым ліку беларусы; каб чысло прэдстаўнікоў ад беларусоў адпаведало бы чысьленасьці беларускаго насяленьня ў межах окупацыі, і каб беларускае грамадзянство атрымало магчымасць паводлуг сваей думкі і сваей волі выбраць сваіх давереных людзей.

Вось, тые варункі, на каторых беларускае грамадзянство ў занятых немцамі землях можэ ждаць забаспечэньня іх правоў і здаволеньня нацыональных патрэб пры дачэснай організацыі нашаго краю. І мы думаем, што толькі на гэткіх варунках яно дасць веру Краёвай Радзе і прыложыць сваю руку да супольнай з усімі грамадзянамі краю творчай працы.

*І. Мелешка.*

## Дэмократычная конфэрэнцыя.

Ешчэ так нідаўна — 10 ліпня — мы пісалі, што, калі Расею спаткаюць новые неўдачы на фронці, у ей могуць здарыцца зусім неспадзеваные прыпадкі, і тады рэволюцыя, не затрымаўшыся на палітычным пэрэвароці, можэ пайсьці далей — да пэрэвароту соцыяльнаго. Цяпер, судзячы паводлуг расейскіх газэт, мы стаім перад магчымасьцю вельмі сур'ёзнаго павароту палітычнаго курсу ў левым кірунку, і „Реч“ становуча заяўляе, што „палітычны баромэтр суліць буру“.

Ужо пасьля упадку Рыгі і бунту Корнілова большэвікі, каторые зусім выразна йдуць да соцыяльнай рэволюцыі, на момэнт дайшлі былі пабеды: карыстаючыся тым, што на заседаньні рады раб. і салд. у Пецярбурзі перэвага, с прычыны нябытнасьці значнай часьці членаў рады, аказалася на іх старане, большэвікі правялі рэзолюцыю, каторая апавешчала пераход у рукі народу ўсіх зямель, нічога не выключаючы, а такжэ конфіскацыю гасударствам трох глаўных галін прамышленасьці — мэталюргічнай, капальняў вугальля і дабываньня газы. Рэзолюцыю гэту рада, сабраўшыся назаўтра ў поўным складзе, адкінула. — Аднак, гэта не спыніло далейшай працы большэвікоў у раз намечэным кірунку. Карыстаючыся ўсё узрастаючым нездавольствам народу безканечнай вайной, карыстаючыся замешаньнем, якое вызваў бунт Корнілова, большэвікі у апошнім часі вельмі узмацаваліся, і вось доказ іх сілы: паводлуг іх праекту ў чэцьвер, 27 верасьня, ў Пецярбурзі адкрылася дэмократычная конфэрэнцыя, аб каторай газэты напярод пісалі, што яна будзе мець характэр крайні левы, і каторая маніцца выбраць новае міністэрство — чыста соцыялістычнае. Гэтаго мала: як шыбка расьце перэвага большэвікоў у пецярбурскай радзі раб. і салд., паказвае факт, што прэдлажэньне меньшэвікоў і соцыял-рэволюцыонероў у спэцыяльнай пастанове адзначыць прыпадковасць прынятай, а пасьля адкінутай успамянутай рэзолюцыі большэвікоў на адным з апошніх заседаньнёў было адкінуто 519 галасамі проці 438 пры нябытнасьці толькі 57 членоў рады. З гэтай то прычыны ўрад рады — ў тым ліку Чхэідзэ, Скобелев, Цэрэтэлі і Чэрнов — падаліся у адстаўку, і ёсць знакі, што рада пойдзе ўсё больш налево.

Гэтак Расея дайшла, як здаецца, да зваротнаго пункту. Бунты Корнілова і Каледіна — гэта толькі дробные эпізоды, раўнуючы да таго, што суліць найбліжэйшая будучына, развязку каторай павінна прынесьці дэмократычная конфэрэнцыя.

*М. М.*

## У Вільні і ваколіцах.

× **Беларускі Публічны Сход.** Як мы ўжо пісалі, ў гэту нядзелю, 30 верасьня, с пазваленьня Stadthauptmanna, а 3 гадз. паабедз і ў Беларускім Клюбе, Сьв.-Юрскі прасп. 22 (у падворку). адбудзецца публічны сход, на каторым будзе прачытан рэфэрат аб беларускім нацыональным руху.

Пасьля рэфэрату адбудзецца абмен думкамі.

Ўход — па білетам, каторые можна загадзя атрымліваць у маршалка Беларускаго Клюбу, Віленская 33. 1 (у Бібліотэцы) ад 2 да 4 гадз. паабедзі.

× **Віленская дыэцэзія,** як вядома, аснована 12 марца 1388 году. Яна абнімае 14 дэканатоў з 200 парахвіямі ў віленскай губэрні і 9 дэканатоў с 111 парахвіямі ў б. гродзенскай губэрні. 1.400.000 душ абслужываюць 500 ксяндзоў. Манастыроў у ей 4: мужчынскі у Гродні (пусты) і 3 жаноцкіе — ў Вільні, Гродні, Слоніме.

× **Дыплёмы для членаў Рады.** У тэксьці дыплёмаў для членаў Краёвай Рады Літвы мы знаходзім гэткіе словы:

„Паводлуг прэдлажэньня літоўскаго краёваго з'езду . . . . назначаецца членам Краёвай Рады Літвы“.

× **Каля жыдоўскіх сьвят.** Жыдоўскую хоральную сынагогу у сьвята міра адведалі: глаўнакамандуючый групай войск, Эйхгорн,

## І. Мітычные і абрадавые песьні.

(Гл. «Гоман» № 66—77).

### Панябошчыцкіе.

#### Галошэньне.

Побач з іншымі турботамі аб сваей сьмерці і пахове беларускі селянін стараецца, каб было каму па ім пагаласіць. Гадуючы сына бацька верыць, а маці, не скрываючы, кажэ, што „ён закрые мае сьмяротные вочынькі і пахавае мае костанькі“; дачка-ж так сказаць дапоўніць абычай: „прыляціць шэрай зязюляй і жалобна прыкукуець“. На гэтым апіраецца апошняя надзея селяніна і ім ён бачыць вынец усім трудам, перанесеным пры выхованьні дзяцей.

Умірае захожы, бязродны чэлавек: першая жаласць бывае, што па ім некаму пагаласіць. Слабы, ціхі плач па нябошчыку вызывае дакорлівую увагу са стараны мужчын да кабет: — „ці-ж ужо німа каму пагаласіць“?!

Пробуючы свае спевацкіе сілы над рознымі песьнямі, пастушка ў поле, жнея на ніві, збіральніца грыбоў і ягад у лесі, полючы гарод і робячы іншые свае жаночые работы, кабеты зубраць галасільные тэксты і тоны. Гэткім парадкам галасьба становіць канечна патрэбную часць абычайлівых хаўтур: да яе загадзя прывучаюцца, яе вымагаюць і нябытнасць яе кляймуюць.

Галасьба, або галошэньне — гэта плач кабет с прычытаньнем, у якім зазвычай перэлічаюцца добрые чыны нябошчыка, апісываецца горэ і жаль жывых сваякоў і высказываюцца розные дображычлівасьці ў вечным жыцьці.

Кожнае галошэньне гэта ёсць імпровізацыя с характэрным рытмам і мэлёдзіей.

### Прычытаньня.

#### Па мужу.

А Божэ-Божухна!
На што-ж ты нас разлучыў,
Як галубкоў нагнездных?
На што-ж ты, мой гаспадару, мяне пакідаеш
З дробнымі ды з дзеткамі?
А куды-ж ты гэта прыбраўся, у якую дарожку?
Адкуль мне цябе ждаці?
Калі-ж ты да мяне ў госьці прыйдзеш?
А ці зімовай парой, а ці летняй?
А мой гаспадарчэ! ці ты ня чуеш,
Што твае конікі іржаць, волікі рыкаюць?
Што саха твая ляжыць, хто ей араці будзе?
І дзеткі твае плачуць, хто іх карміць-адзеваці будзе?
Яны будуць на вуліцы сядзець,
Будуць людзі ісьці, яны будуць зваць «тата»!
А людзі будуць казаць «шчэнята»!
Куды-ж ты, мой мілы салавейчэ, адлетаеш?
На каго-ж мяне, бедну ўдованьку, пакідаеш?

## Перажыткі паганскаго сьветапагляду у беларусоў.

Сучасная навука у процэссе мітолёгічнаго развіцьця бачыць тры фазы: **фэтышызм, політэізм і монотэізм.**

**Фэтышызм** гэта **найніжэйшая** ступень у процэссе уяўленьня чэлавекам акружаючаго сьвету. Гэта пэрыёд саўсім дзіцячаго стану чэлавецкаго розуму. Дзеля правільнаго разуменьня гэтаго пэрыоду трэба прыняць тое безпярэчнае палажэньне, што пэрвабытные ідэі самі па сабе натуральны і, пры тых варунках, калі яны паўставалі, — разумны. Стануўшы на гэтым пункце пагляду, мы прый-

этапны камэндант, генэрал ф. Тротта, і начальнік упраўленьня Літаўэн, кн. Ізэнбург.

× **Помач немцам.** Дзеля помачы тутэйшым немцам — расейскім падданым Обэр Ост назначыў 10.000 марак.

× **Танные кватэры.** Саюз кватэрантоў, Віленская 20, 3, суліць танные кватэры і сваё пасрэдніцтво між гаспадарамі дамоў і кватэрантамі.

× **У лёмбардзі,** Троцкая 14, — 3, 4 і 5 кастрычніка ад 10 да 2 гадз. будуць прадаваць заложэные рэчы, працэнты за каторые ня плочэны ад 30 чэрвеня 1917 г.

× **Дэзынфэкція вуліц.** Санітарны урад загадаў усім гаспадаром пільнаваць, каб дворнікі акуратна ачышчалі кожын дзень вуліцу перад домам і рабілі-бы дэзынфэкцію рынштокаў.

× **Сэзон грыбоў** — у поўным ходзі. С прычыны недастачы спажыўных прадуктоў грыбы збіраюць людзі, каторые перш ніколі гэтым не заніmaліся. Аб гэтым сьведчаць чысьленые прыпадкі атручэньня грыбамі.

× **Баб'е лето!** Прадвесьнік першых халадоў — „баб'е лето" — ўжо прыйшло.

× **Крадзены конь** У аднаго тутэйшаго жыхара адабралі каня 10 гадоў, як здаецца, украдзенаго ў ваколіцах Рудоміна.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошніе дні была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 23—24 | + 15° | + 9° |
| 24—25 | + 14° | + 6° |
| 25—26 | + 20° | + 7° |

## З усяго Краю.

### Літва і Курляндзія.

«Kown. Ztg.» пішэ:

„Пытаньне аб Літве так цесна звязано с пытаньнем аб Курляндзіі, што трэба лічыцца с канечнасьцю утварэньня болей абшырнаго гасударства на паўночным усходзі, але с тэй умовай, што яно бязспорна будзе апірацца на Нямеччыну. Гэта абедзьвым старонам дасць баспечнасць".

**Таргоўля з Нямеччынай.**

Ешчэ раз напамінаецца, што на моцы загаду Глаўнакамандуючаго на Ўсходзі з 8 жніўня 1916 г. выпісываць тавары з Нямеччыны можна толькі праз Krejsamt'ы, а ня проста.

---

ГРОДНЯ. Новы местовы Бэйрат між членамі сваімі мае такжэ 3 кабеты: Булковштэйн, Кнотэ і Пурікову.

ГРОДНЯ. Дабрачынны вечар даў 643 м. 50 фэн. Першы выігрыш 100 м. паў на білет беднаго хлопца.

РАЦІЧЫ, гродзенск. пав. Безмала ўся вёска была пакарана штрафам грашмі за „хрышчэньне малака". Грамада пастанавіла, каб усе прысягнулі, што невінаваты, ды каб гэтак дайсьці вінных. Пасьля грамада падала заяву ўласьцям, паказваючы на вінавайцоў, у тым ліку адзін муж вінаваціў сваю жонку.

БЕЛАСТОК. На рагу Віленскай і Ковенскай вуліц выкрылі патайны млын.

БЕЛАСТОК. Тут ізноў выкрылі патайную мылаварню. Узято гатоваго мыла і матэр'ялоў на 10.000 марак.

БОГДАРАЗ, пад Беластокам. Тут у начы укралі гнядога каня з жоўтай павозкай.

ВЯЛІКАЕ ДОМБРЫНЕВО У той панядзелак тут згарэла хата і гумно.

ПЛЯНТЫ. Ад 12 да 19 верасьня праваслаўны сьвяшчэнік о. Мітрафан, з Гродні, аб'ежджаў Плянцкі павет, адпраўляючы службу ў Чэрлёнай, Мураванцы, Орлі, Жолудзі і Голдове. Селяне ішлі дзесяткі вёрст, каб прынесьці да хросту сваіх дзяцей, радзіўшыхся за апошніе два гады. Ахрышчэны больш за 1000 дзяцей. Праваслаўнае насяленьне дабіваецца, каб службу Божу скора ізноў правілі. Ад 22 да 28 верасьня будзе аб'ежджаць павет сьв. Ковалёв з Бельска; ён будзе служыць у Рымках і Дубне.

ВОЎКАВЫСК. Ад узрыву лямпы апаліло твары пяці членам сям'і Пекарскіх. Дачка Сара, 20 гадоў, ад гэтаго памерла.

ХОРОШЧ. За гандэль жывёлай тут аштрафавалі аднаго таргоўца на 300 м., а жывёлу сконфіскавалі.

ЧЭРХОВІЦЫ. 14 верасьня раніцай тут узняўся вялізарны пажар, ад катораго згарэлі 54 будоўлі. С прычыны таго, што ўсе жыхары былі ў полі, ратаваць не было каму. Пагарэльцы пераведзены ў суседніе вёскі.

СУПРАСЛЬ. Место агледалі: гэрцог Альбрэхт Мэкленбургскі і прэзыдэнт вольнаго места Любэка. Яны вельмі цікавіліся тутэйшым старадаўным беларускім манастыром.

ВОЙДАГІ. Ваўчыца з 2 ваўчэнятамі напала на стадо і зарэзала авечку. Праз колькі дзён воўкі напалі на стадо кароў, каторые, адважна баронючыся, адбілі іх.

КОЎНА Ад 1 кастрычніка тут будуць праз местовые крамы прадаваць бульбу па 8 кап. за расейскі фунт.

КОЎНА. Са складу „Rohstoff- i Handelsabteilung", Паліцейская 28, укралі 158 скрынак с серчыкамі, $6^1/_2$ цэнтнэроў цукру і іншые тавары цэннасьцю разам на 1.300 м.

КОЎНА. Аб ажыўленых таргових зносінах с Каралеўцам, Мэмэлем і Гданскам у мінулые сталецьця сьведчаць знойдзенные нідаўна доўгіе спіскі купцоў, або гасьцей, як іх тады называлі, каторые тут пастаьнна пражывалі. У 1568 г. за бургомістра быў выбран немец, Бэрнгард Біттнэр.

КОЎНА. Гэтымі днямі на глаўнай вуліцы з'явілася блізка зусім голая кабета з бальніцы для вар'ятоў. Сваімі дзікімі паступкамі яна зрабіла сэнсацію. Яе гвалтам павялі назад у жоўты дом.

ВІЛЬКІ. У часі перастрэлкі з бандай разбойнікоў тут забілі жандара Макар'юніса.

ВІЖЭЙНЫ. У двары Койле узняўся пажар, ад катораго згарэла стайня. Прычына пажару — невядомая.

СУВАЛКІ. 18.IX. Тут прайшла вельмі рэдкая ў гэту пару году навальніца Гром не сціхаў. Град сыпаў гэтак шчодра, што ў момэнт пакрыў лёдам усе вуліцы і пляцы места.

СОСЬНІКІ, пад Кальварыей. У нямецкаго лясьнічаго, Бэйнгофа, ў начы на 12 верасьня укралі с кватэры 18.000 марак.

ЮНГАВАНГІ. Пяцера людзей напалі ў белы дзень на кватэру селяніна С. і, грозячы стрэльбай і рэвольвэрам, зрабавалі ў яго 160 руб. Аднаго з ліхадзеёў пазналі, і ён засуджэн на 5 гадоў у папраўчы вастрог.

З гэтай прычыны «Kown. Ztg» пішэ, што гэта—звычайнае здарэньне, якое бывае ў Літве кожын дзень.

СРЭДНІКІ. 22 верасьня тут разбіралі вялікую справу. Перад судом стаялі 19 тутэйшых жыхароў, каторых вінавацілі у організаціі зладзейскіх банд, якіе зімой таго году запужалі паветы Рос'ены і Вількі. Большая часць падсудзімых — маладые хлопцы. Яны засуджэны ў папраўчы дом ад 1 да $3^1/_2$ гадоў. Апрыч таго чацьвёра за таргоўлю крадзеным аштрафованы на 1000 руб.

ДОНГЕЛАЙЦЫ, вілковіск. пав. 18 верасьня на раніцы знайшлі павешэнаго на плоці ля сваей хаты селяніна Крайнэра з разбітай галавой. Арэштаваны сын і жонка забітаго, каторых вінавацяць у забойстве.

РЫГА. С прычыны таго, што ў Рызе цяпер німа ніводнай газэты, попыт на газэты з другіх мейсц— надта вялікі. Перад „Feldbuchhandlung" стаяць вялізарные „хвасты".

РЫГА. У апошнім перад прыходам немцоў часі заработная плата узрасла ў 6 разоў проці мірнаго часу. У местовай кассе было толькі 10.000 руб., і место стаяло перад банкруцтвам. Хлеб на карты каштаваў 18 кап. фунт, а „тайны" — да 1 рубля. Яйко гэтак сама каштавало 1 руб. У рэстарані абед з зупы і мяса каштаваў да 8 руб., чарка гарэлкі — 2 руб., бутэлька шампанскаго — 45 руб.

МІТАВА. 18 верасьня першы раз пад нямецкай ўласьцю созван курляндзкі Ляндтаг пад маршалкоўствам ф. Гэрнэра.

Ляндтаг прыняў гэткую рэзолюцію:

„Каб развязаць агульные пытаньня, трэба сазваць у Мітаве агульны сход з 80 дэпутатоў, у тым ліку 27 вялікіх землеўласьнікоў, 4 дэпутатоў ад курляндзкай шляхты, 5—ад духавенства, 17—ад мешчан і 27—ад дробных землеўласьнікоў".

---

мем за пэўнік, што ўсё невядомае первабытны чэлавек тлумачыў сабе пры помачы ўжо вядомаго.

Бліжэй за ўсё первабытны чэлавек знаў самога сябе. З гэтаго выплывае, што первабытные людзі павінны былі апірацъ свае тлумачэньня аб акружаючым іх сьвеце на аналёгіях, пачэрпнутых са сваей сьвядомасьці, і дзеля гэтаго яны надзелялі ўсе рэчы норавамі і склоннасьцямі, ўласьцівымі жывому чэлавеку: спасобнасьцю чуць голад і смагу, прыемнасць і прыкрасць, любіць пахвалу і лесць, мсьціць крыўдзіцелю і т. п. Згодна са сваім разуменьнем аб акружаючым сьвеце, первабытны чэлавек устанаўляе і свае адносіны да яго: гаворыць з нежывымі рэчамі, просіць у іх помачы і рады, а ў патрэбе дзякуе ім і інш. Адгалоскі гэтай далёкай мінуўшчыны захаваліся у звычаях, абычаях, забабонах, песьнях і казках нашаго народу, і, прыглядаючыся да іх, мы можэм адтвараць гісторыю развіцьця культуры ў нашым народзе.

**Пашана агня.** Яўные сьляды фэтышызму значацца ў пашане беларусамі агня наагул і дамоваго огнішча асабліва. Гэта рыса болей або меней агульная ўсім арыйскім народам. Гэтак у Рыме, як вядома, у бажніцы Вэсты гарэў вечны агонь, у літвіноў перад балванам Пяруна паліўся негасны агонь Зніч. У нашых прадзедоў агонь шанаваўся нараўне с сонцам, як родные браты, як сьветазарные і цяпладайные істоты.

У поглядах беларусоў агонь яўляецца аднэй с падвалін сям'і, хатнім пэнатам, істотай аздараўляючай і ўсёачышчаючай. Дзеля гэтаго у кожнай сям'і стараюцца падтрымацъ свой агонь, старэнна загрэбаючы гарачае вугальле ў пячурку, каб выдуваць яго ў патрэбе. Пры пераходзе з аднэй сялібы у другую, пры раздзелі, нясуць с сабой агонь з хатняго огнішча. Зневажаць агонь плювоцінай ці чым іншым падобным лічыцца оправай грэшнай і небаспечнай.

Агнём лечаць хваробы. Вогнік можэ быць вылечэн толькі пры помачы агня. Калі дзеці корчацца і крычаць у ночы, вераць, што іх мучаць *начніцы*. Начніц можэ адагнаць толькі агонь. Дзеля гэтаго ноччу распаляюць у печы і перад полымем полюць у прыполе, або ў начоўках дзяцей, нашэптываючы «загавор»:

Цёмная ночка
Начніц спарадзіла, —
Малому дзіцяці
Мукі нарабіла;
Яснае сонейко

Дзень пачынае,
Начніц праганяе,
Дзяннiц прысылае,
Боль сунімае.
Шух у печ! Шух у печ!

Добры гаспадар, насаджываючы у асеці снапы першы раз у годзе, кідае сноп жыта у асетны агонь. Гэта адгалосак первабытных ахвяр агню.

Агонь, як старадаўны радавы пэнат, змацовывае розные сямейные сувязі. Гэтак нявестка, ўвайшоўшы ў хату жаніха, кланяецца огнішчу і прыкранаецца да яго рукамі. Гэта самае робіць жаніх, ідучы ў чужую сям'ю.

Агонь вялічаюць эпітэтам „Багач", хочучы яго ўласкавіць.

Пры помачы агня варожаць. Калі агонь гарыць вясёла — гэта наагул добрая прымета. Калі вугаль трапляе ў гаршчок са стравай — гэта азначае дарунак. Калі с печы с трэскам выскаківаюць гарачые вугалі — гэта азначае скорае прыбыцьце жаданаго госьця. Чаму? Ды, мабыць, таму, што ў колішніе часы агонь, як сямейны, хатні пэнат, лічыўся апякуном гасьцей, як і ўсіх тых, што знаходзіліся пад страхой яго прыпыну.

**Вада.** Побач з агнём, не малой пашанай карыстаецца і вада — другі жывёл, ешчэ болей важны дзеля жыцьця чэлавека. Многа вестак аб пакланеньні вадзе захавалося у летапісцоў і ў навуках нашых багасловаў з даўных часоў. І па сягоньняшні дзень у Беларусі аддаюць пашану азёрам, руччом і крыніцам. Асабліва шануюцца крыніцы. Крынічная вада завецца «жывой» вадой, аздараўляючай і ачышчаючай, як і агонь. Вясной, пасьля першаго грому пачынаюць людзі ісьці да крыніц памыцца і памаліцца. Ідуць у вядомые дні, здаўна устаноўленые: на Юр'я, на Міколу, на Успэсьце, на Дзевятніка, на Дзесятніка; да „русальнай нядзелі" (першая пасьля Тройцы), бяруць ваду толькі да піцьця, а пасьля русальнай і купаюцца. Плеваць у ваду грэх, а асабліва ў жывую.

